Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная тыднёвая часопісь.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Ліпоўка 18.

ПРЫЙМО ІНТЭРЭСАНТАЎ ад 10 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год — 6 зл., за паўгоду — 3 зл., за 3 мес. — 2 зл., за 1 мес. — 50 гр.

Год I. Вільня 5 Кастрычніка 1931 г. № 21

## УЛАСНЫМІ СІЛАМІ.

Згодна з польскай канстытуцыяй, якая ўсё яшчэ фармальна ня зьменена і мае абавязковую сілу, польскія ўлады ў працягу трох апошніх гадоў давалі пэўную грашовую дапамогу беларускім гімназіям у Вільні і Навагрудку, пакінуўшы без дапамогі толькі чамусьці асабліва нялюбую ім гімназію ў Клецку. Ня будзем тутака затрымлівацца над пытаньнем, у якой меры за гэтую дапамогу маглі здаволівацца патрэбы дзьвюх гэтых гімназіяў: прэса неаднакротна адзначала, што ў беларускіх гімназіях аплата вучыцельскае працы была найніжэйшая на ўсю Польскую Рэспубліку... Сцьвярджаем толькі, што за гэту ўрадавую дапамогу — пры частковым падтрыманьні з боку грамадзянства і дзякуючы самаахвярнасьці вучыцялёў — гімназіі маглі неяк звадзіць канцы з канцамі, робячы пры гэтым значныя палёгкі дзецям вясковае беднаты, якія ў гімназіях перавжитываюць.

Пачуцьцё, што гэтыя нашыя адзіныя кузьні, у якіх выковываюцца кадры будучае беларускае інтэлігенцыі, маюць забясьпечаны быт, — супакойвала нашае грамадзянства — наагул вельмі беднае на грошы.

Усё йшло, здавалася, добра і гладка; вучні, канчаючы беларускія гімназіі, атрымлівалі правы матурыстаў урадавых школаў; грошы на ўтрыманьне гімназіяў у даволі значнай часткі пакрываліся з дзяржаўнага скарбу, — дык і клапаціцца аб матэрыяльны бок школьнага жыцьця ня прыходзілася, а маральна-ўзгадаваўчы і пэдагогічны бок школьнае працы зусім здаваляў нават найбольш зласьлівых крытыкаў гімназіяў.

Цяпер палажэньне неўспадзеўкі рэзка зьмянілася. Акурат з пачаткам гэтага школьнага году

*лічба ўрадавых этатаў для вучыцялёў беларускіх гімназіяў зьменшылася больш чым удвая*

(замест 7 — на 3!), а

*дапамога грашмі на патрэбы віленскае гімназіі спынена ўрадам зусім.*

Лёгка зразумець, якім цяжкім ударам для нашага школьнага жыцьця аказалася гэтае спыненьне дапамогі з сум дзяржаўнага скарбу — з сум, якія паўстаюць і з нашага мужыцкага мазаля: усе-ж мы плацім дзяржаўныя падаткі — не гарэй, чым самі палякі... Вынікам гэтага ёсьць — з аднаго боку — зьменшэньне і без таго нізкіх заробкаў беларускіх вучыцялёў, з другога — неабходнасьць больш энэргічнага спаганяньня платы за навуку з дзяцей беднаты, якая часта запраўды ня мае магчымасьці заплаціць за сваіх дзяцей пэўную плату. У школе паўстае настрой вельмі прыгнечаны: і вучыцялі, і вучні вельмі балюча адчуваюць крыўду, якая робіцца беларусам, і ў пэўнай меры здаюць сабе справу з таго, што мы стаімо перад пагрозай поўнага зьнішчэньня самастойнага беларускага школьніцтва.

Горача пратэстуючы проці спыненьня дзяржаўнае дапамогі беларускаму сярэдняму школьніцтву (— бо даваць гэткую дапамогу абязывае ўрад Польшчы яе-ж уласная канстытуцыя), — мы, аднак, ня маем права абмежыцца толькі адным гэтым слоўным пратэстам. Мы мусім шукаць ратунку для нашых гімназіяў ужо не ад ураду Польшчы, а ад людзей добрае волі, якія разумеюць згубныя вынікі сучаснага процібеларускага палітычнага курсу. І мы зварачаемся да ўсіх, хто толькі можа, аб дапамогу нашым гімназіям — шляхам выплачываньня

*сталае што-месячнае складкі.*

Тыя 2.500 злотых у месяц, якіх цяпер урад ужо не выплачывае, мы павінны раздабыць з іншае крыніцы. І мы лічым, што ня толькі беларусы мусяць адгукнуцца на наш заклік: на яго павінны зарэагаваць

*усе так-званыя нацыянальныя меншасьці Польшчы,*

бо тое, што робіцца сягоньня з беларусамі, заўтра-ж можа быць тасавана і да іншых меншасьцяў. Зварачаемся ўрэшце і да тэй польскай дэмакратыі, якая ўмее гэткія прыгожыя словы нам казаць — аб волі, роўнасьці, брацтве ўсіх народаў Рэчыпаспалітай, ды так мала зрабіла на дзеле ў нашым палітычным жыцьці.

*Памажэце нам усе — ня дайце загінуць апошнім ужо ў Польшчы жывым вогнішчам беларускае нацыянальнае культуры!*

Але найбольш павінны мы

*спадзявацца на саміх сябе.*

Настаў мамэнт, калі ў дзеле ратаваньня нашых культурных устаноў, у якіх вучацца дзеці і радыкалаў — былых грамадаўцаў, і хадэкаў, і іншых,

*нельга розным групам і кірункам ісьці паасобку, а трэба напружыць солідарна свае сілы,*

каб залатаць у школьным бюджэце дзіру якая зьявілася ў ім з прычыны адмовы дзяржаўнае ўлады далей выпаўняць у адносінах да беларускага школьніцтва свой абавязак, прадугледжаны ў § 110 польскае канстытуцыі.

*Няхай кожны беларус — хто-б ён ні быў, няхай кожны наш спагадчык пастановіць выдзяляць на школьніцтва хоць пару злотых у месяц, —*

і мы хутка здолеем залячыць зробленую нам рану. А разам з тым мы

*акрэпнем, падымемся маральна,*

бо пачуцьцё, што ёсьць яшчэ ў нас самых даволі сіл, каб свае справы вясьці незалежна ад зьменных адносінаў да нас дзяржаўнае ўлады, падтрымае нас і ў гэтым выпадку, і наагул.

**Апошні нумар нашае часопісі з 10-га верасьня с. г. сканфіскаваны паліцыяй за зьмяшчэньне перадавое стацьці пад загалоўкам „Другі бок мэдалю“.**

**У гэтай стацьці Рэдакцыя дапа сваё асьвятленьне прычыны тых ад'емных бакоў польскае культурнае працы ў беларускай вёсцы, якія былі сцьверджаны абшарніцкай газэтай „SŁOWO“...**

## АБ ЗАБЯСЬПЕЧАНЬНІ „АГУЛЬНАГА МІРУ“ НА ЎСХОДЗЕ ЭЎРОПЫ.

Няма, можа, другога народу, які быў-бы больш заінтэрэсаваны ў міры на Ўсходзе Эўропы, як беларусы. Бо-ж якраз тэтыторыя, на якой жыве беларускі народ, станецца ў першую галаву пляцдармам — месцам кожнае вайны на гэтым Усходзе. Таму для беларусаў асаблівы і спэцыяльны інтарэс маюць узнаўшыяся толькі-што перагаворы паміж Польшчай і СССР аб заключэньні так званага „пакту аб узаемным ненападаньні“.

23 жніўня польскі пасол у Маскве п. Патэк запрапанаваў Літвінаву ўзнавіць перагаворы, прычым падаў свой праект „пакту“, праект — блізу так і-ж самы, які быў ужо неаднойчы адкінены радавай дыплёматыяй, як зусім немагчымы да прыняцьця для СССР, дадаўшы да яго адзін толькі новы пункт, які таксама, як заявіў Літвінаў, „ня можа быць прыняты, як і ўсе іншыя“. Аддаўшы сваю ноту, п. Патэк выехаў на 6-тыднёвы одпуск.

Трэба адзначыць, што якраз незадоўга перад гэтым распачаліся — і, здаецца, паважна — перагаворы між Францыяй і СССР — у справе палітычнага і гандлёвага трактатаў. Гэтыя перагаворы, зразумела, страшэнна зацікавілі — з аднаго боку Нямеччыну, а з другога — Польшчу.

Зацікаўленасьць Нямеччыны і Польшчы ў французска радавых перагаворах, як лёгка зразумець, — процілежная: Польшча хоча, каб Францыя, заключаючы трактаты з СССР, не забылася дый не абмінула ўіх жыцьцёвых інтарэсаў сваей саюзьніцы Польшчы, Нямеччына — якраз наадварот — страшэнна баіцца, каб Францыі не ўдалося — спакушаючы радавы ўрад на-гвалт патрэбнымі яму пазыкамі, — выцягнуць ад яго запраўды паважную гарантыю міру на Ўсходзе, а асабліва-ж — барані Божа... — прызнаньне сучасных граніцаў Польшчы...

З гэтага ўжо — ясна, што польскай дыплёматыі трэба было насамперш — фармальна ўзнавіць справу перагавораў з Радамі якраз цяпер, калі ідуць перагаворы з імі Францыі.

Зразумела і тое, што, калі на Літвінава, прыехаўшага ў Бэрлін — праездам у Жэнэву на зьезд Лігі Нацыяў, — насела нямецкая дыплёматыя, дык ён афіцыяльна заявіў, што — „ніякія перагаворы паміж Польшчай і Радамі не вядуцца“... Але, каб зразумець гэтую заяву Літвінава і трывогу немцаў, трэба ведаць, што нямецка-радавы трактат Рапальлё-Бэрлінскі трэбуе, каб радавы ўрад паведамляў Бэрлін аб усіх перагаворах Масквы з іншымі дзяржавамі, асабліва-ж — з Францыяй і Польшчай. Такім чынам, „перагаворы“, аб якіх ня ведаў Бэрлін, зьявіліся-б нарушэньнем радава-нямецкага трактату. Усё-ж Літвінаў быццам прызнаў, што паміж Радамі і Польшчай ідуць ужо пэўны час „гутаркі“ у справе трактату...

Чым адрозніваюцца гэтыя „гутаркі“ ад „перагавораў“, ня ведама. Але — ясна, што „гаранцыйны трактат“ паміж Польшчай і Радамі можа быць зрэалізаваны толькі ў выніку паразуменьня ня дзьвюх гэтых, а ўсіх чатырох (прынамся га-

(гл. на адвароце).

лоўных) дзяржаваў, зьвязаных вузлом міравой праблемы на ўсходзе Эўропы: Польшчы і Францыі, СССР і Нямеччыны. А гэга, зразумела, таму, што кожная з гэтых параў сама зьвязана вузлом саюзаў, ад якіх ня можа ды ня хоча адмовіцца. бо яны гарантуюць жыцьцёвыя інтарэсы першай вагі кожнага сябры гэтых параў...

З другога боку, зразумела і тое, што кожная з гэтых параў імкнецца да таго, каб разьбіць сувязь другой пары, каб тым лягчэй атрымаць над кожным паасобным яе сябрам перавагу. Так Францыя заявіла Радам, што не падпіша трактату інакш, як у межах яе саюзных абавязкаў з Польшчай (і Румыніяй). Польшча, у свой чарод, як варунак „незачэпнага трактату“, ставіць Радам падпісаньне супольнага трактату з іншымі „бар'ернымі“ дзяржавамі: Эстоніяй, Латвіяй і Румыніяй...

З свайго боку СССР рашуча адкідае як варункі Францыі, так і Польшчы, пратэстуючы проці „мяшаньня ў двубаковы трактак трэцьціх дзяржаваў“... Аднак, Нямеччына, як сказана, баіцца, што Рады ня вытрываюць да канца — пад націскам патрэбы ў крэдытах і спакушэньня з боку Францыі — на сваім становішчы, прадбачаным у Рапальскім Трактаце, датучачым адмовы гарантаваць існуючы тэрытарыяльны лад у Эўропе, бо гэта зрабіла-б немагчымым для Нямеччыны перагляд яе граніцаў — коштам Польшчы. Магчымасьць (праўду кажучы — вельмі малая...) заключэньня „трактату трох“, гэта значыць — Францыі, СССР і Польшчы, — асабліва страшыць Нямеччыну. Тым больш, што Францыя ў перагаворах з Радамі як быццам так ставіць справу.

Такім чынам — Нямеччына хоча за ўсялякую цану ўтрымаць пагрозу польска-радавай вайны, якая дае ей магчымасьць страшыць Эўропу, а ў частцы Польшчу і націскаць на іх — у напрамку папраўкі польска-нямецкай граніцы. Нямеччына хоча, каб гэтая пагроза эўрапэйскаму міру была спынена не дарма, не дзеля самога міру, але за цану папраўкі граніцаў. У гэтым і зьмяшчаецца бліжэйшы сэнс нямецка-радавага трактату. Калі-б Рады самі паразумеліся з Францыяй і Польшчай дый загарантавалі граніцы апошняй, дык Рапальскі трактат адразу страціў бы для Нямеччыны больш паловы сваей вартасьці... І магчыма, што тады Нямеччына кінула-б „прыязьнь“, а можа парвала-бы і саюз з Радамі.

Але ведаюць аб гэтым добра і ў Маскве і выкарыстываюць усё гэта ў сваіх мэтах, спрытна йграючы на вышэй паказанай шахаўніцы пераблутаных інтарэсаў галоўных дзяржаваў на Усходзе Эўропы. А таму спадзявацца хуткага паразуменьня, супакоеньня ды замірэньня на гэтым Усходзе няма паважных падставаў...

Кожная з дзяржаваў хоча міру, але зразумела — не дзеля самога міру, а прызнае толькі такі мір, які забясьпечывае яе інтарэсы. Калі не, дык кожная лічыць такі мір — горшым за вайну... І вось у гэтым — уся небясьпека для гэтага беднага „агульнага міру“ на нашым Усходзе.

# Японска-кітайская вайна.

Якраз у часе чарговай штогоднай сэсіі Агульнага Збору Лігі Нацыяў, якая мае галоўнай мэтай і задачай гарантаваць мір і недапушчаць да вайны, узгарэлася запраўдная крывавая бойня паміж Японіяй і Кітаем...

Здарэньні выбуху вайны ў часе існаваньня Лігі наглядаюцца ўжо ня ўпяршыню. Асабліва галасным быў аружны канфлікт паміж Італіяй і Грэцыяй у 1923 г., калі італіянскі флёт заняў цэлы рад належачых да Грэцыі астравоў, паміж іншымі — вялікі востраў Корфу. Але тады рашучае выступленьне Англіі, якая пагразіла Італіі прыслаць на помач Грэцыі свой магутны флёт, адразу памагло Лізе Нацыяў спыніць пагрозу вайны ў зародку. Другі выпадак вайны, дый вельмі крывавай і даволі даўгой, здарыўся паміж Кітаем і Саветамі ў восені 1929 г. — зараз-жа пасьля падпісаньня ўсімі дзяржавамі сьвету, у тым ліку і абедзьвюма ваяваўшымі, „Трактату вечнага міру“ Кельлёга...

Праўда, у гэнай апошняй вайне адна з ваяваўшых дзяржаў — СССР — не належала да Лігі. Цяперашні выбух новай вайны мае нячувана скандальны характар, — бо-ж ваюць між сабой два сябры Лігі, дый яшчэ ў часе, калі ў Жэнэве „вядзе сваю шляхотную працу над угрунтаваньнем сусьветнага міру“ урачыстае сабраньне гэтай Лігі...

—

Вайну распачала Японія, якая даўно точыць зубы на Кітай, хочучы выкарыстаць час, пакуль гэтая вялізарная краіна знаходзіцца яшчэ ў стане рэвалюцыйнага хваляваньня хатняй вайны ды шуканьня форм нацыянальнага аб'яднаньня, пакуль ня сталася яшчэ магутнай у сваім канчальным нацыянальным адзінстве.

Японія ўжо не аднойчы — у часе вайны дый пасьля вайны — прабавала налажыць сваю жалезную лапу на суседнюю паўночную трацьціну Кітаю, але кожны раз вялікія дзяржавы, а першым чынам Англія і Амэрыка — змушалі Японію зьняць ды адсунуць сваю лапу.. Асабліва балюча для Японіі была страта таго пануючага палажэньня, якое яшчэ нядаўна яна мела ў Манжурыі — ў часе «дыктатарства» там японскага найміта Чанг-Тсо-Ліна. Сын яго Чанг Су-Ліанг у значнай меры скінуў з сябе японскую каманду (?), падтрыманы цэнтральным урадам Чанг-Кай-Шэка. Японія павольна, але рашуча выцясьнялася з Манжурыі магутным імкненьнем кітайскага народу да нацыянальнай незалежнасьці і дзяржаўнага аб'яднаньня. Дык, — прычапіўшыся да выпадку забойства японскага афіцэра кітайскімі жаўнерамі (?), — Японія распачала вайну, узапраўднасьці карыстаючыся выгадным для яе мамэнтам фінансавай і палітычнай слабасьці Англіі, дый — хто ведае — ці не ў паразуменьні з бальшавіцкім урадам, які ня хоча падтрымліваць нацыянальнага ўраду Чанг-Кай Шэка — за яго жорсткую барацьбу проці „чырвоных арміяў“ Кантонскага ўраду дый проці камуністычнага руху ў Кітаі наагул.

У Лізе японскі дэлегат зрабіў вельмі крывадушныя дый проста ілжывыя заявы; японскі ўрад выдаў камунікат аб тым, быццам „ваенныя падзеі мелі толькі мясцовы характар“, дый ужо прыпынены і ўжо „распачаліся мірныя перагаворы“... А тым часам — галоўнае места Манжурыі Мукдэн — узяты з бою японцамі, — і крывавая бойня дагэтуль ня спынена.

Чым скончыцца гэтая бойня? Як далёка пойдзе Японія ў сваіх дамаганьнях ад Кітаю? Ці абмежыцца вайна толькі дзьвюма ваюючымі дзяржавамі, ці — наадварот — уцягне ў сваё вогненна-крывавае горла й іншыя дзяржавы, расставіўшыя даўно ўжо свае лапы на хворую радзільнымі мукамі вялізарную краіну? — На гэтыя пытаньні ў хуткім часе адкажуць шпарка разьвіваючыяся падзеі.

Асабліва-ж цікаўна, што зробіць магутная Амэрыка, якая таксама даўно рыхтуецца да таго, каб „разрахавацца“ з Японіяй. Дагэтуль ня ведама, якую лінію заняў і СССР, які зараз-жа, зразумела, змабілізаваў на граніцы з Кітаем вельмі значныя сілы. Трэба аднак-жа казаць шчыра, што для оптымізму — мала падставаў. Японія выразна лжэ Лізе Нацыяў, рыхтуючыся адначасна да апэрацыяў вельмі значнымі сіламі...

Падчырківаем яшчэ раз характэрную адсутнасьць на „тэатры вайны“ і ў Лізе дый над японскім вухам — уладнага голасу Англіі. Вось што значыць крах англійскай валюты, які адбіўся нават найстрашнейшай бядой ды пагрозай для англійскага панаваньня на акіянах: бязсільлем яе флёту. Бо-ж, як ведама, англійскія матросы бунтуюцца з прычыны зьмяншэньня ім пэнсіяў... А без свайго флёту Англія — усё роўна, як рассыпаная куча каменьняў бяз вапны.

## Японска-кітайская вайна і Ліга Нацыяў.

Ужо 21 верасьня кітайскі ўрад выслаў у Лігу Нацыяў ноту, у якой, даўшы апіс аружнага нападу з боку Японіі. патрэбаваў умяшаньня ў канфлікт Рады Лігі — на падставе § 11 яе статуту.

22 Рада Лігі занялася канфліктам. Дэлегат Кітаю заявіў, што за мінулую пару палажэньне страшэнна пагоршылася, дык трэба цяпер ужо пакараць Японію — на падставе статуту Лігі.

Дэлегат Японіі заявіў, што ад свайго ўраду ён... ня мае ўказаньняў, як зьліквідаваць канфлікт, а таму прапануе... адлажыць яшчэ на суткі разгляд справы (ведама-ж, каб даць магчымасьць Японіі заняць войскам Манжурыю).

Але назначанае на 23 паседжаньне Рады... не адбылося. Замест яго адбылася «тайная нарада», на якой японскі дэлегат заявіў проста, што Японія.. адмовілася адклікаць свае войскі з Манжурыі... І Рада... глынула гэтую пігулку..

—

Японскі міністар вайны заявіў, што Японія — «гатова адцягнуць з Манжурыі сваё войска, як толькі... дазволяць абставіны... Японскі прэм'ер заявіў, што ён „аб вайне... нічога нават ня ведае“!.. „Вайны няма, а ёсьць толькі «выпадак», які здарыўся з канечнасьці абароны ўласных інтэрэсаў Японіі, якія пагвалціў... Кітай“. А таму Японія ня можа згадзіцца, каб Ліга, пазываючыся на свой статут або на «пакт Кэльлёга», выступала ў ролі «узьмірыцеля ваеннага канфлікту».

Дзіва, што магутная Рада Лігі ў канцы пастанавіла сваю шляхотную інтэрвэнцыю адлажыць... на неазначаны час.

**ГРАМАДЗЯНЕ!**

**Пішыце ў сваю газэту аб жыцьці нашае вёскі і гораду.**

# ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

## Польшча.

### Скліканьне бюджэтнае сэсіі парляманту.

1 кастрычніка распачалася звычайная сэсія Сойму.

Як ведама, штогодная звычайная, ці бюджэтная сэсія парляманту павінна — паводле Констытуцыі — быць склікана не пазьней, як 31 кастрычніка і цягнуцца без перарыву, пакуль парлямант ня скончыць разгляду бюджэту, што павінна быць зроблена да 1 красавіка наступнага году, калі пачынаецца новы бюджэтны год. Бо-ж на гэты новы бюджэтны год парлямант і павінен апрацаваць бюджэт, ці даць ад імя народу дазвол ураду выдаваць грошы — на ведамыя рэчы ў точна азначаных сумах.

Як ведама, у апошнія гады парлямант на бюджэтную сэсію склікаўся заўсёды ў апошні тэрмін, прадбачаны ў Констытуцыі, а нават і значна пазьней. У гэтым годзе склікана на цэлы месяц раней апошняга тэрміну. У гэтым прэса бачыць пэўную азнаку жаданьня ўраду больш апірацца на парлямант, чым гэта было дагэтуль, цясьней «супрацоўнічаць з грамадзкасьцяй», як пішуць газэты. Гэта — добра. Але й ня дзіва: цяжкі крызіс можа быць перамажаны толькі супольнымі сіламі ўсяго арганізаванага грамадзянства краю.

Ёсьць, як пішуць газэты, і яшчэ прычына хутчэйшага скліканьня парляманту. Як ведама, — пры існаваньні апазыцыйнага ў сваей большасьці парляманту — урад стаў на тым, што бюджэтная сэсія павінна займацца толькі бюджэтам. Нанат у апошнім годзе для разгляду іншых законапраектаў ураду склікаліся спэцыяльныя — «надзвычайныя» — сэсіі. Цяпер, як можна думаць, урад нейк зьмяніў сваё становішча. Ён падаў у Сойм, ня лічачы быджэту, звыш 100 законапраектаў, пераважна вельмі сьпешных і важных, якія, можна думаць, і займуць у першую чаргу ўвагу Сойму. У лічбе гэтых законапраектаў стаяць: праект новага закону аб падатку ад даходу і аб падвыжцы падатку на піва і д. т. п. Але ўрад мае яшчэ падаць у Сойм у бліжэйшы час яшчэ рад новых законапраектаў — аб самаўрадзе, аб новым адміністрацыйным падзеле гаспадарства і інш. Апроч таго, Сойм пэўне-ж будзе займацца ўсьцяж і страшэнна зацягнуўшайся справай перагляду Констытуцыі, якую прадстаўнікі найвышэйшай улады ў Польшчы неаднойчы ўжо абвяшчалі «нячувана сьпешнай». Калі ўзяць усё гэта пад увагу, дык лёгка зразумець, колькі цяжкой і адказнай працы найвялікшай дзяржаўнай вагі павінен будзе зрабіць Сойм у працягу 5 — 6 месяцаў сваей звычайнай сэсіі.

---

## Заграніцай.

### Украінскія пэтыцыі ў Лізе.

„Камітэт Трох“ пастанавіў даць ход пэтыцыям украінцаў у Польшчы, перадаўшы іх на разгляд Рады. Даклад у справе іх даручана зрабіць японскаму дэлегату Іошысава. Даклад будзе заслуханы толькі на наступнай сэсіі Рады — у студні.

### Фінансавы крах Англіі.

Фінансавы крызіс Англіі ўрэшце, як і спадзяваліся, завяршыўся крахам англійскай валюты. 20 верасьня англійскі ўрад — у паразуменьні з Банкам Англіі абвясьціў — аб прыпыненьні неабмежанага дагэтуль разьмену на золата папяровых грошаў Англіі. Гэта значыць, што залаты запас у Банку Англіі зьменшыўся ніжэй прадбачанай нормы, а таму „банкноты“ яго страцілі частку сваей паказанай на іх паўнавартасьці...

Тактыка Францыі, якая ўсьцяж высысала з Англіі золата, урэшце дабілася мэты: Англія апынулася ў поўнай фінансавай залежнасьці ад Францыі дый змушана таму падпарадкавацца і яе палітычным загадам... Французская пазыка — на „ратаваньне“ (!) англійскага фунта — аказалася таму „пігулкай ад зямлітрасеньня“. Вялізарныя пасьледзтвы фінансавага краху нядаўна яшчэ найбагацейшай пасьля Амэрыкі дзяржавы сьвету, — будуць вялізарныя. Першай пачула іх на сябе тая-жа Францыя: „палітычны трыўмф“ над Англіяй каштаваў ужо Францыі шмат міліярдаў франкаў. — Бо-ж вельмі значныя яшчэ французскія капіталы ў Англіі адразу страцілі, як і англійскі фунт, каля пятай часткі сваей вартасьці.

## Амэрыка і канфлікт.

Роля Амэрыкі неяк дзіўна ня высьветляецца дагэтуль: ёсьць «чуткі», быццам Амэрыка выслала Японіі ўльтыматум, але толькі — «няма яшчэ пацьверджаньня гэтага»... Амэрыка выслала сэкрэтарыяту Лігі пісьмо, у якім... далучаецца да «акцыі» Рады ў канфлікце, але заяўляе, што— «супрацоўнічаць з Радай у справе ня будзе» (?). Але-ж Рада ня робіць ніякай «акцыі».

## Ультыматум Радаў.

Радавы ўрад быццам выслаў да японскага ўраду ўльтыматум, трэбуючы — адвясьці войска ад Харбіна, -- пагражаючы інакш вайной.

Харбін -- вялікае расейска-кітайскае места і важны пункт на Усх. Кітайскім чыгунк. шляху, які мае для Радаў вялізарнае значэньне.

---

## З Савецкага жыцьця.

### Як жывуць у СССР.

У апошні час у загранічных газэтах зьявіўся рад новых апісаньняў радавага жыцьця, якія даюць вярнуўшыяся з СССР чужаземцы, пераважна амэрыканцы.

Жонка амэрыканскага інжынера, які прабыў 2 гады ў СССР, піша:

„У сучаснай Расеі — няма радасьці, ані сьмеху, няма нават усьмешкі... Няма ўзаемнай пашаны, дабрабыту, даверра. Усё быццам перавернена да гары нагамі. Усё, што лічылася раней у Расеі дый усюды на сьвеце і цяпер лічыцца дрэнным і праступным, там лічыцца добрым— і наадварот.

Усім жывецца дрэнна, кожны адчувае недахоп найпатрабнейшых рэчаў.

Сучасная Расея ёсьць хіба найбольш немаральным краем па сьвеце, дый гэтая немаральнасьць яўна падтрымліваецца й пахваляецца ўрадам.

„Добрай сям'і блізу зусім няма. Муж і жонка зьвязаны быццам цененькай ніткай. Узапраўднасьці кожны й кожная жыве сабе — хто з кім хоча: шлюбы й разводы робяцца ў некалькі мінутаў — без усялякіх сьцясьненьняў. Нарадзіны дзяцей разглядаюцца, як лішні цяжар. Таму зусім адкрыта — у дзяржаўных установах — даюцца „парады“ й робяцца апэрацыі, каб ня мець дзіцяці. Цяжарнасьць, як кажуць у СССР, толькі „псуе прамысловую вартасьць жанчыны“... А калі дзіця ўжо нарадзілася, матка можа проста зусім пакінуць яго ў спэцыяльных „дзіцячых дамох“ дый больш ня цікавіцца нават ім...

„З сялянамі радавыя ўлады паступаюць, як з скацінай, а з сялянкамі дык яшчэ горш,.. Добра жывуць пакуль-што толькі камуністы ды чырвонаармейцы“.

### Маральны развал камун. партыі ў СССР.

Сэкрэтар ленінградзкага камітэту кам. партыі, Кіраў, які нядаўна адбыў падарожу па правінцыі, зрабіў даклад, у якім сьцьвярдзіў агульны і паўсюдны маральны расклад партыйных арганізацыяў на мясцох, асабліва-ж — камсамольскіх. Гэтыя мясцовыя арганізацыі Кіраў лічыць ужо няздольнымі да правядзеньня ў жыцьцё загадаў з цэнтру дый „блізу цалком страчанымі для партыі“.

### Чаго няма ў Маскве і ў савецкай правінцыі?

Маскоўская прэса адкрыта піша, што ў Маскве «днём з агнём» нельга дастаць: грэбіня, гузікаў, шпілек, брытвы, голак... «Хто ня ведае, што рабочы, які патрабуе нагвалт гэтых прадметаў першай патрэбы, павінен гадзінамі стаяць у хвастох, каб атрымаць іх з коопэратыву?». У часе васеньняга завалу рынкаў гароднінай на ўсім сьвеце — у радавых коопэратывах па некалькі дзён ня бывае ані гуркоў, ані памідораў... У аптэках нельга дастаць рыцыны, валерыянкі, шпіт'нару і шмат найпатрабнейшых іншых лякар. Пунктовыя аптэкары супакойваюць кліентаў: усе гэтыя лекі ёсьць, нават іх залішня шмат, але ж няма толькі. .шклянной пасудзіны, няма скрыняў, паперы, мяшкоў, рагожаў, каб запакаваць ды разаслаць гэтыя лекі па мясцовых аптэках“.

---

# ГІСТАРЫЧНЫ ДАКУМЭНТ.

*(Да справы Клецкае Гімназіі).*

Мы атрымалі копію паданьня да Міністэрства Асьветы ад Бацькаўскага Камітэту Беларускае Гімназіі ў Клецку. Дакумэнт гэты настолькі характэрны, што лічым сваім абавязкам падаць да агульнага ведама зьмешчаныя ў ім факты.

„Далучаючы да гэтага пісьмо п. Куратара Віленскага Школьнага Вокругу, у якім п. Куратар падае Камітэту прычыны, дзеля якіх ён адмаўляецца прадоўжыць канцэсію на Беларускую Гімназію ў Клецку, а такжа копію пісьма п. Куратара з 30.XII.1929 г. № II 43138 29, на якое п. Куратар пазываецца ў пісьме № II 20027/31, — Урад Камітэту ня можа прызнаць слушнымі тыя тлумачэньні, на якіх п. Куратар апірае сваю нязломную пастанову ня даць канцэсіі на далейшае вядзеньне Беларускае Гімназіі ў Клецку. Тлумачэньні гэтыя ў большасьці сваей зусім не адпавядаюць запраўднасьці дый не такія ўжо важкія, каб іх хапала на ліквідацыю школы.

Бацкаўскі Камітэт мае канцэсію на Гімназію толькі ад пачатку 1930-31 школьнага году і адказвае толькі за гэты час існаваньня школы. Недахопы ў школе, калі яны былі да 1930-31 шк. году, ня могуць быць пастаўлены ў віну Бацькаўскаму Камітэту. У 1930-31 шк. годзе стан школы значна палепшыўся; большасьць закідаў, зьмешчаных у пісьме № II—43138-29, ня маюць месца ў адносінах да школы ў 1930-31 годзе, а іменна:

1) З 9 працуючых у гімназіі ў апошнім шк. годзе вучыцялёў 5 маюць скончаныя вышэйшыя навукі, а рэшта мела права навучаньня ў сярэдніх школах на падставе арт. 12 закону з 26-IX-1922 году;

2) Кіраўнік гімназіі п. А. Макарэвіч быў высунены на становішча кіраўніка школы панам Куратарам і быў зацьверджаны на гэтым становішчы;

3) падставовай праграмай Гімназіі ёсьць праграма Дзяржаўнае Гімназіі тыпу прыродна-матэматычнага. Дапаўненьне гэтае праграмы прадметамі беларусазнаўства і датарнаваньне ўсяе праграмы да школы з няпольскай выкладовай мовай ў свой час былі пададзены ў Кураторыюм. Раскладка выкладаных прадметаў і раскладка гадзін паасобных выкладаў на 1930-31 шк. год былі зацьверджаны Куратарам;

4) агульнае цьверджаньне п. Куратара, што школа не выпаўняе загадаў улады, не вядзе, як сьлед, узгадаваўчае працы, мае нізкі ровень навучаньня, — ні на чым не абапёрта. Роўня школы ў 1930-31 шк. годзе п. Куратар ня ведае, бо ў школе ў апошнім школьным годзе візытацыі ня было. А такія факты, як недапушчэньне ў наступныя клясы ў канцы 1930-31 шк. году 40 проц. вучняў вышэйшых клясаў, запросіны на 1930-31 шк. год трох новых вучыцялёў, скончыўшых унівэрсытэцкія навукі, — не маглі не адбіцца на падняцьці роўня школы.

„Хоць закіды ў справе школьных падручнікаў, школьных дапамог і г. д. ёсьць слушныя, аднак Урад Камітэту мусіць сцьвярдзіць, што:

1) Недахоп некаторых падручнікаў ў беларускай мове выяўляецца не ў аднэй толькі Клецкай Гімназіі, але так-жа ў Віленскай і Навагрудзкай, якія ў гэты мамэнт знаходзяцца на дарозе да «упаньствовеня». Падручнікі, якіх не хапае ў беларускай мове, гімназія замяняе адпаведнымі падручнікамі польскімі, і гэта ня можа быць для п. Куратара падставай дзеля ліквідацыі школы;

2) Гімназія мае ляబараторыю, якое хапае дзеля праходжаньня курсу хіміі, мае значную лічбу абразоў і мап з батанікі, заолёгіі, географіі і фізыкі, значныя прыродазнаўчыя колекцыі. Няпоўным пакуль-што зьяўляецца фізычны габінэт, але найбольш неабходныя прыборы дзеля праходжаньня курсу фізыкі ў гімназіі ёсьць. Школьная бібліотэка складаецца з больш як 600 тамоў і мае неабходныя для школы творы беларускіх і польскіх пісьменьнікаў ды клясыкаў сусьветнае літэратуры. Апроч таго вучні могуць карыстацца — пад кантролем вучыцялёў — з даволі значнае меставае бібліотэкі;

3) За адзін год утрыманьня гімназіі Бацькаўскі Камітэт ня мог збудаваць уласнага будынку дзеля школы, але ўжо мае пляц і рыхтуецца распачаць будову школьнага гмаху. Цяперашняе-ж памяшчэньне гімназіі ня ёсьць зусім неадпаведным дзеля школы, бо-ж павятовы доктар сцьвярдзіў, што яго хапае на 120 вучняў і ён адпавядае вымаганьням санітарыі і школьнае гігіены“.

Сцьвярджаючы ўсё гэта і адзначаючы, што Кураторыюм, якое ліквідуе *беларускую* гімназію, аднача́сна „падтрымлівае стараньні іншых групаў ў справе адчыненьня ў Клецку *польскае* гімназіі“,— Бацькаўскі Камітэт просіць п. Міністра Асьветы, каб скасаваў пастанову п. Куратара аб адмове канцэсіі на далейшае вядзеньне беларускае гімназіі ў Клецку і каб загадаў выдаць сталую канцэсію, а не на адзін год, бо на здабываньне канцэсіі штогодна бацькі прымушаны вытрачываць значныя грошы.

Калі Міністэрства Асьветы ня выслухае і ня споўніць гэтае просьбы, паданьне астанецца цэнным дакумэнтам для будучага гісторыка палажэньня беларускага народу ў Польскай Рэспубліцы.

---

## Кароткія навіны.

— Вобыскі і арышты — у зьвязку з шуканьнем забойцаў нябошчыка Т. Голувкі — ня спыняюцца. У м. Самборы дый па ўсім павеце — з даручэньня пракурора—паліцыя зрабіла шматлікія вобыскі, у рэзультаце якіх арыштаваны рад асобаў. Вобыскі зроблены у б. сябры апэляцыйнага суда Бэрэжанскага, у сэкрэтара «Просьвіты» Кастрыцкага і інш.

— З другога боку — акцыя шкодніцтва на тэрыторыі Усх. Галічыны, ня гледзячы на „даразныя суды“, ня спыняецца. Ізноў ды йзноў „нявыкрытыя бандыты“ перараза́юць тэлеграфныя і тэлефонныя дроты, падкладаюць шпалы ці каменьне пад цягнікі, псуюць чыгункавы шлях, страляюць у паліцыянтаў і т. д.

— У Берасьцейскім акружн. судзе закончыўся „працэс 29“, якіх вінавацілі ў належаньні да К. П. З. Б. дый у цэлым радзе антыдзяржаўных выступленьняў. Прысудам суда 18 засуджаны на розныя тэрміны —ад 4 да 7 гадоў катаргі; рэшта — апраўданы. Пасьля прачытаньня прыгавору адзін з засуджаных, Іван Кацук, крыкнуў: „Далоў акупантаў усходніх зямель“ ды кінуўся на паліцыянтаў з цяжкім крэслам у руках. Паліцыянты кінуліся на яго, іншыя падсудныя баранілі яго, дык завязалася звалка. Паліцэйскай падмозе ўрэшце ўдалося спыніць непарадак („Наше Время“).

— У Варшаве зьліквідавана камун. арганізацыя, працаваўшая сярод польскай арміі. Арыштаваны дагэтуль 27 асоб, у тым ліку ведамыя камуністы Сікорскі, Малецкі, Мэйшак і Гордон.

— Ведамы «Гэтман Украіны» Скарападзкі падпісаў «умову» з вэнгерскімі магнатамі-абшарнікамі, у якой «адступіў» ім... «Падкарпацкую ўкраіну» (Русь), за што Вэнгрыя (?) будзе выплачываць гэтаму спрытнаму самазванцу па 50.000 пэнго ў год. Мы ведаем, як „набыў“ гэты былы царскі падхлебнік сваё «права» на гэтманскую Украіну — пры дапамозе нямецкіх акупантаў. Але «правы ўласнасьці» на іншыя ўкраінскія землі ён «здабыў» ужо зусім проста. — Ён проста «абвясьціў» сябе — «князям галіцкім», «князям холмскім» ды «гаспадаром Падкарпацкай Русі»!.. А цяпер, як бачым, пачаў ужо і гандляваць гэтымі «сваімі« княствамі ды гаспадарствамі з жывымі душамі... А вэнгерскім абшарнікам, ведама-ж, толькі-б зачапіцца за што-небудзь — у мэтах рыхтаванай вайны за «перагляд трактатаў» ды перадзел Эўропы.

— Афіцыяльная статыстыка ў Нямеччыне паказывае, як расьце лічба палітычных забойстваў, даконываных гітлераўцамі. За гады 1924—1929 рабілася „толькі“ па 3—6 сьмяротных замахаў у год.

Перамога гітлераўцаў на выбарах у парлямант адразу падняла іх ваенны „дух“ — лічба палітычных замахаў з сьмяротным канцом у 1930 г узрастае ўжо да 80! А за першую палову 1931 г дайшла ўжо да 18!..

У гэтыя лічбы не ўваходзяць замахі ды напады, якіх ахвяры атрымалі „толькі“ цяжкія раны ды калецтвы. Такія напады лічацца тысячамі.

— Дагэтуль нацыянальным сьвятам у Італіі лічыўся дзень 20 верасьня, калі ўспаміналася ўзяцьце Рыму арміямі італіянскіх незалежнікаў у 1870 г. і скасаваньня тым самым былай «папскай дзяржавы». Але цяпер — пасьля мірнага паразуменьня Мусоліні з папай і адбудаваньня нанова «Ватыканскай Дзяржавы», хаця, праўда, толькі ў межах малой часткі аднаго места Рыму, — Мусоліні загадаў, каб нацыянальным сьвятам быў абвешчаны дзень 2 лютага, дзень падпісаньня так зван. «Лятэранскай умовы», якая спыніла 50-летнюю «вайну» наміж абодвума Рымамі сьвецкім — Квірыналам і духоўным — Ватыканам.

---

# З ЖЫЦЬЦЯ Ў Б. С. С. Р.

### Нешта не ў „ударным“ тэмпе.

„Дырэктыва партыі ня выканана“. Пад такім загалоўкам падае „Зьвязда“ № 261 з 25-IX-31 г. характэрную зацемку аб выкананьні пасеўнага пляну ў гэтым годзе ў Клічаве: „На 23-га верасьня засеяна азіміны 12,803 га — 75 проц. пляну. Калгасамі засеяна 70 проц., саўгасамі 55 проц. і аднаасобнікамі 86 проц. Па раёну абвешчаны пяцідзеньнік штурму пасеваў“.

Нешта падвялі паны калгасьнікі нават у параўнаньні да звычайнага селяніна (70 : 86).

У тым-жа самым нумары падае „Зьвязда“, што так слаўленыя машынна-трактарныя станцыі здолелі выканаць толькі 24 проц. пляну збожазагатовак, што тлумачыцца слабым ходам абмалоту збажовых і бабовых культур.

У наступным нумары той самай часапісі з дня 26-IX-31 г. чытаем, што адзін з буйнейшых беларускіх тарфяных заводаў „Белторфу“—„Новая Беларусі“ здолеў вывязьці толькі 500 тон торфу, што складае 2,2 проц. выпрацоўкі (7725 тон), а з гэтае лічбы на палёх ляжыць каля 30 проц. не сабранае сьцілкі.

Ну само сабой вінаваты розныя нац-дэмократы, сабатажнікі і іншыя шкоднікі.

## Новыя пачынаньні.

У Гомелі, як падае „Сав. Беларусь“ № 223 з дн. 26-IX-31 г. у гэтых днях пушчана ў рух новая фабрыка цукерна-харчовага комбінату „Спартак“.

Комбінат выпускае вельмі вялікую кольказьць прадуктаў і займае адно з першых месц у забяспечаньні насельніцтва. У сярэднім прадукцыя выносіць 48 тон у пару на суму 100 тысяч рублёў.

Збудавана гэта фабрыка па апошняму слову тэхнікі, дый для працуючых створаны адпаведныя санітарна-гігіенічныя ўмовы.

Як падае тая-ж „Савецкая Беларусь“ Нар. Кам. Земляробства абвясьціў усебеларускі конкурс на лепшае правядзеньне першапачаткавай апрацоўкі і здачы таварнае прадукцыі лёну і канапель на 1931 г.

Усё гэта добра, але.. ізноў нейкія сабатажнікі, у стылю беларускіх нац-дэмакратаў і іншых нац-фашыстаў і соц-здраднікаў могуць папсаваць і сарваць.

## Баяцца беларусізацыі прамысловасьці.

Як падае „Савецкая Беларусь“ № 216 з дн. 18-IX-31 г. Прэзыдыюм Ц. В. К. Б. С. С. Р. пастанавіў зьвярнуць большую ўвагу на правядзеньне „інтэрнацыяналізацыі“ (ліквідацыі беларускасьці) прадпрыемстваў у Б.С.С.Р., пры чым прапануе зьвярнуць увагу на ўцягненьне большага (?) ліку жыдоў у прамысловасьць, бо быццам у некатарых галінах за шмат працуе беларусаў. (У сярэднім жыдоў працуе ў прамысловасьці каля 30—35 проц.). Няўжо-ж і тут было за шмат беларускасьці?

## Б'ю ц ь . . .

Як даносіць „Сав. Беларусь“ 11 верасьня г. г. цяжка паранены ў Хойніцкім раёне старшыня Вялікаборскага сельсавету. Факт пабіцьця наступіў у часе сьцягіваньня штрафу (нашае „кары“).

Само сабой разумеецца нейкі корэспондэнт дамагаецца для вінаватых суровае кары.

## Літэратурныя навінкі.

— Выйшаў з друку другі том поўнага збору твораў Цішкі Гартнага.

— П. Галавач пераапрацаваў для другога выданьня сваю аповесьць „Спалох на загонах“.

— Кузьма Чорны напісаў вялікае апавяданьне „Бацькаўшчына. Апавяданьне выходзіць асобнай кнігай.

— Выйшла з друку кніга А. Александровіча. У кнізе гэтай сабраны выбраныя творы за першае дзесяцігодзьдзе творчасьці паэты (1921—1931 г.).

— У Менску гатуецца да выданьня кніга пад назовам „Гісторыя хатняе вайны ў Беларусі“.

Да рэдагаваньня запрошаны цэлы рад ведамых дзеячоў і літэратаў на чале з Гарляковым і Чаротам.

## Крыўдзіцца на беларускіх літэратараў.

У „Сав. Беларусі“ № 218 з дн. 20-IX-31 г. нейкі п. Іл Барашка ў сваім запраўды бараньнім артыкуле „Чарговыя заданьні літэратурнага руху ў Б. С. С. Р.“ крыўдуе на пісьменнікаў, згуртаваных каля часопісаў „Полымя“ і „Узвышша“, што быццам яны арыентуюцца выключна на пісьменьніцкія імёны і да гэтага часу іх рэдакцыі нічога не зрабілі, каб зьвязацца з нізавымі (хіба а ля Дзем'ян Бедны) літэтарутнымі гурткамі.

Відаць колюць вочы аўтара артыкулу, тыя дыямэнты запраўднае беларускае літэратуры, якія час ад часу бліскаюць на бачынах гэтых часапісаў. Дык дарогу для „вуліцы“! і пры аказіі, як не „данясьці“. Вось адна з красачак: — „... на старонках гэтых часапісаў („Полымя“ і „Узвышша“) сустракаюцца час ад часу шкодныя, як літэратурныя, так і крытычныя творы. Гэты недахоп трэба зьнішчыць“... А мо' яшчэ так зрабіць адзін пагром сярод Беларускэга Парнасу пад прыкрыўкай нац-дэмакратычнай небясьпекі? Брава „таварыш“ Барашка!

# КАРЭСПАНДЭНЦЫІ

## „Шляхотныя“ коопэратары.

*(м-ка Лыскава, Ваўкавыскага павету).*

Прызнакі існаваньня спажыв. коопэратывы ў Лыскаве прыкмячаюцца яшчэ ад 1923 году, але карысьці ад яе ніхто не адчуў ніколі.

У восені 1927 году тагочасны кіраўнік Лыскаўскае коопэратывы нейкі пан Тэрлях, зрэдукаваны польскі вучыцель быў злоўлены ў Пазнані і пасаджаны ў вастрог за растрату грамадзкіх грошаў. У 1928 годзе новы кіраўнік коопэратывы, па сьлядох п. Тэрляха зрабіў тое самае. Пан Хлопіцкі, сёлетні кіраўнік коопэратывы, раздаў у крэдыт тавары з коопэратывы ды ў такой меры, што коопэратыва мусіла сябе пахаваць, нарабіўшы масу даўгоў. Цікава тут, што п. Хлопіцкі даваў у крэдыт з коопэратывы выключна панкам і ўрадоўцам. Для звычайных сяброў коопэратывы крэдыт у п. Хлопіцкага ніколі не адчыняўся, дык н чога дзіўнага, што апошнюю ягоную шляхотнасьць лічаць ні за што іншае, як за новую форму дэфраўдацыі. Тавары ў коопэратыве набываліся заўсёды па вышэйшай цане, як нават у прыватных крамах.

Гэтак гаспадарылі «шляхотныя» панкі ў лыскаўскай коопэратыве. Мне здаецца, гэта павінна добра навучыць наіўных лыскаўцаў і раз назаўсёды пераканаць, што трэба жыць сваім розумам, што толькі сваімі сіламі трэба будаваць тое, што для сябе патрэбнае і неабходнае.

*Лыскавец.*

# ХРОНІКА

**— Фонд „Дому Беларускае Культуры“.** Сума фонду „Дому Беларускае Культуры“, сабраная грамадзянствам да дня 1-I-1931 году, дасягае 10,603 злот. 75 гр. Грошы гэтыя ляжаць на тэрміновым рахунку ў Беларускім Коопэратыўным Банку ў Вільні. Кожнае паступленьне запісана ў асобную кнігу і было паквітавана сваечасна ў беларускіх часопісах.

Характэрна, што — як відаць, у сувязі з агульным зьбядненьнем і расьцярушаньнем беларускага грамадзянства — ў працягу 1931 году на фонд „Дому Беларускае Культуры“ не паступіла ніводнае ахвяры.

**— Апякуйцеся студэнтамі!** Мы атрымалі ад ведамага беларускага коопэратара, грам. Адварда Будзькі, пісьмо, у якім ён выясьняе ўсю важнасьць узгадаваньня беларускае інтэлігенцыі з вышэйшай асьветай і заклікае нашае грамадзянства да арганізацыі дапамогі нашае студэнцкае моладзі. Грам. Будзька прапануе закласьці адумыснае таварыства дзеля помачы бяднейшым студэнтам.

**— Рэліквіі кар. Аляксандра і каралевы Барбары.** Пры рамоньце фундамэнту віленскае катэдры знойдзены ў замуроўках розныя даўнейшыя рэчы, паміж іншым залаты ланцуг, кароны і розныя косьці, якія, як думаюць, зьяўляюцца рэліквіямі кар. Аляксандра Ягельлёна і каралевы Барбары.

**— Польскі цукер варочаецца назад“.** Пад такім загалоўкам „Słowo“ у № 211 з 15 верасьня с. г. друкуе запраўды-ж сэнсацыйную заметку:

„Ведама, што польскі цукер, які вывозіцца заграніцу, каштуе тамака танней, чым у краі. Гэта выкарыстываюць кантрабандысты, якія скупляюць наш экспортны цукер і вязуць яго, як кантрабанду, у Польшчу, зарабляючы на гэтым бязмала 100 процантаў...

„Кантрабанду гэтага роду асабліва можна заўважыць на польска-латвійскай граніцы.

„Коп змагаецца з гэтым як мага, і надовячы былі затрыманы некалькі падводаў, нагружаных цукрам, у мамэнт, як яны пераяжджалі цераз граніцу“.

Дзіўныя рэчы творацца на гэтым сьвеце!

**— Ізноў Валэйша!** Польская прэса нядаўна шмат пісала аб вельмі спрытным машэнстве, якое сталася ў Вільні. Нейкі панок, менючыся іменем дамаўласьніка Фронцкевіча, атрымаў з Камунальнага Банку пазыку ў суме 5.000 даляраў, падпісаўшы на гэту суму вэксаль іменем Фронцкевіча, акурат ня бышага пад гэты час у Вільні. Штучка гэная выкрылася, і фальшывы Фронцкевіч папаў за рашотку. Аказваецца, што гэта быў лішне ўжо добра ведамы сярод беларусаў Станіслаў Валэйша.

Падаючы гэту вестку, „Słowo“ прыпамінае, што гэты патэнтаваны «полёнофіл» мае вельмі багатую крымінальную прошласьць. Газэта пералічае цэлы рад машэнстваў, якія былі зроблены Валэйшай за апошнія гады.

Прыходзіцца толькі дзівіцца, чаму ўсе гэтыя штукі Валэйша мог рабіць бяскарна аж дагэтуль?!.

**— А за ім — Аляксюк!** Праз колькі дзён пасьля зьмяшчэньня ў абшарніцкай часопісі „Słowo“ весткі аб крымінальнай афэры „полёнофіла“ Валэйшы — тое-ж „Słowo“ у нумары з пятніцы, 25 верасьня, друкуе рэвэляцыю аб „бацьку полёнофілаў“ валэйшаўскага тыпу, адвакаце Паўлюку Аляксюку. Аляксюк, як ведама, зрабіў на „полёнофільстве“ добры інтэрас і разжыўся, пабудаваў сабе ў Навагрудку дом, завёў багатыя мэблі і г. д. Усю сваю маемасьць ён застрахаваў — як піша „Słowo“ — на 100.000 злотых (дом на 40.000 зл. і хатнюю абстаноўку — каля 60.000). І вось раптам усё гэтае згарэла. Пачалося сьледзтва, — і ў выніку гэтага сьледзтва п. Аляксюк — па загаду пракуратуры — аказаўся арыштаваным, як абвінавачаны ў падпале сваей маемасьці дзеля атрыманьня страхоўкі.

**— Багаслужэньні ў Пятніцкай царкве.** 21 і 27 верасьня ў Пятніцкай царкве адбыліся багаслужэньні. Было шмат вучняў беларускіх школаў і іншых веруючых. Памастацку, захопліваюча пеяў хор, зложаны з вучняў і аматараў—беларусаў.

21 верасьня, добрае казаньне ў беларускай мове казаў настаяцель царквы, сьв. Кульчыцкі.

Багаслужэньні ў Пятніцкай царкве маюць адбывацца цяпер часьцей, як было дагэтуль.

**— Спэктакль-Вечарына.** У суботу 3-га кастрычніка с. г. вучні VIII кл. Віл. Бел. Гімназіі ладзяць спэктакль-вечарыну. Пастаўлена будзе: «Галодны Дон Жуан» і «Дарота» (жарцікі). Па сканчэньню спэктаклю — скокі пад гукі духавое і сымфанічнае аркестры. Буфэт на мейсцу. Пачатак у 7½ гадз. у вечары. Уваход выключна па запросінах.

# Пісьмо ў рэдакцыю.

Паважаны Грамадзянін Рэдактар!

Дзеля таго, што ўсялякае баламучаньне грамадзянства лічу за рэч шкодную, незалежна ад мэты, для якое гэта робіцца, — мушу прасіць Вас падаць да агульнага ведама на старонках Вашае паважанае часопісі наступную маю заяву.

Няведамае мне польскае прэсавае агенцтва WAPL разаслала 18.IX.1931 г. „Палітычны Бюлетэнь“, у якім зьмешчана толькі адна заметка пад назовам „Зьмены сярод беларусаў“, пасьвячоная цалком і выключна маей асобе. На самым пачатку гэтага паведамленьня гаворыцца:

„Выдатны дзеяч і нацыянальны павадыр беларусаў, які стала жыве ў Вільні, праф. Антон Луцкевіч, з прычыны завастрэньня процібеларускага курсу, які бальшавікі праводзяць на тэрыторыі ўсяе Меншчыны, *рашуча высказаўся на карысьць полёнофільскага курсу*“.

З увагі на тое, што прозьвішча маё перакручана, я сьпярша ня мог пазнаць сябе ў гэтым, *бо я на гэту тэму нідзе не высказываўся.* Толькі з далейшага зьместу камунікату, дзе гаворыцца аб маей працы ў Беларускай Гімназіі ў Вільні, а так-жа аб пэўных мамэнтах з маей мінуўшчыны, я зразумеў, што гутарка йдзе аба мне.

Ня буду рэагаваць на іншыя няточнасьці, зьмешчаныя ў камунікаце, але гэтае першае часткі не магу пакінуць без адказу, бо-ж яна мае яўна правакатарскі характар.

У сучасных варунках, калі на беларускае школьніцтва ў польскім гаспадарстве сыплюцца балючыя ўдары, калі беларуская праца наагул сустракаецца з чысьленымі перашкодамі з боку адміністрацыйных уладаў, — падобнае выступленьне, якое прыпісывае мне таямнічы камунікат, сьведчыла-б ня толькі аб адсутнасьці ў мяне пачуцьця асабістае і нацыянальнае годнасьці, але так-жа і аб поўным заніку палітычнага змыслу. Мэта гэтага баламуцтва аж залішне ясная...

Што-ж датычыць абходу 25-лецьця маей публіцыстычнай працы, які, паводле камунікату WAPL мае адбыцца ў гэтым месяцы, — дык лічу, што ў гэткі цяжкі мамэнт беларускае грамадзянства не аб юбілеях думаць павінна, а аб ахвярным высілку дзеля ператрываньня і перамаганьня труднасьцяў, якія ўсьцяж вырастаюць на нашым шляху да лепшае будучыны.

З пашанай

*Антон Луцкевіч.*

Вільня, 23-IX-1931.



Рэдактар-выдавец: М. СІНЯЎСКІ. Друкарня А. ДВОРЖЭЦА. Вільня, Завальная вул. № 32.